


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 5 (9) ТРАВЕНЬ 2002 г.


## ВЕСТКІ

БРАСЛАЎШЧЫНА

У Віцебску надрукаваны зборнік "Легенды і паданні Віцебшчыны", падрыхтаваны Абласным аб'яднаннем па арганізацыі пазашкольнай працы. У зборнік уключаны звыш 10 легенд і паданняў, запісаных вучнямі Дрысвяцкай школы пад кіраўніцтвам Эмы Шавэлы.



З сярэдзіны красавіка да 8 траўня ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры працавала выстава вядомага беларускага мастака Алеся Пушкіна, які жыве і працуе ў



мястэчку Бобр Аршанскага раёна. Выстава была ўрачыста адкрыта ў прысутнасці мастака 12 красавіка. Прысутныя напачатку праглядзелі фільм Ірыны Волах "WWW. Pushkin. by", а потым Алесь Пушкін распавёў аб сваёй творчасці, аб сваіх поглядах на сучаснасць і будучыню Беларусі. Імпрэза вылучалася прыязнай цёплай атмасферай.

# Сімвал горада



*2 чэрвеня бягучага года спаўняецца 210 гадоў гербу Браслава. У апошнія гады ён даволі часта ўжываецца не толькі музеем, але і іншымі арганізацыямі Браслава. Неўзабаве герб горада набудзе афіцыйны статус. Адпаведнае рашэнне рыхтуецца раённымі ўладамі. Па іх заданню музей падрыхтаваў эталон герба, яго абгрунтаванне. Адначасова распрацаваны эталон сцяга Браслаўскага раёна. Гэта белае палотнішча з блакітнай паласой пасярэдзіне. У цэнтры палотнішча змешчаны герб Браслава.*

*Аб сімволіцы Браслаўскага герба пісалася шмат. Прапануем увазе чытача тэкст з паштоўкі "Герб Браслава" з камплекта "Гісторыя Браслава ў малюнках", а таксама адлюстраванне самой паштоўкі (мастак Валеры Зінкевіч).*

**Герб Браслава. 1792 г.**

Герб горада – гэта яго свасасаблівая візітная картка, сімвал значнасці, асаблівага статуса У даўнія часы гербы надаваліся гарадам, якія мелі правы на самакіраванне ці магдэбургскае права. Існуюць звесткі, што вялікі князь літоўскі Аляксандр 8 кастрычніка 1500 г. падпісаў прывілей аб наданні Браславу няпоўнага магдэбургскага права. Пакуль тэкст прывілея не знойдзены і дакладна невядома, якімі правамі карыстаўся горад і яго жыхары. У 1776 г. Сойм Рэчы Паспалітай скасаваў права на самакіраванне для нязначных мястэчак. Жыхарам мястэчак такое рашэнне не магло спадабацца і яны пачалі барацьбу за вяртанне даўніх прывілеяў. У хуткім часе мястэчкі сталі атрымліваць граматы з пацверджаннем права на самакіраванне. 2 чэрвеня 1792 года вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст падпісаў прывілей, які вяртаў магдэбургскае права Браславу. У тэксце прывілея змешчаны малюнак герба – вока ў трохкутніку на фоне сонца. Асноўны элемент герба вядомы пад назвамі: Вока наканавання, Божае вока апекі, Усевідушчае вока. Гэта даўні хрысціянскі сімвал, які нагадвае, што Бог бачыць усе ўчынкі людзей. Трохкутнік сімвалізуе трыадзінства Бога, існуючага ў трох іпастасях: Айца, Сына і Святога Духа. Сонца – гэта старажытны сімвал жыцця, агню, што валодае ачышчальнай сілай ад злых духаў. Герб Браслава азначае, што горад знаходзіцца пад апекай Божай, якая засцерагае яго ад бедаў і няшчасцяў. З пісьмовых крыніц вядомы адбітак пячаткі Браслаўскага магістрата. Акрамя герба Браслава на ёй змешчаны герб Вільні – выява Святога Хрыстафора з малым Ісусам на плячы. Па авалу пячаткі надпіс: "Пячаць магістрата места Р(эчы) П(аспалітай) вольнага Браслава. Года 1792" Паводле навуковай рэканструкцыі Вока малюецца ў блакітным трохкутніку на фоне залатога сонца, поле шчыта – блакітнае. Колер браслаўскага герба добра стасуецца з сіняволі азёрнага наваколля горада, а вока – з тымі старонкамі яго гісторыі, калі Браслаў з'яўляўся парубежным умацаваным пунктам.

# ВЕСТКІ

У памяшканні Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея пачала працу выстава "Памяці Отана Гедэмана". Прадстаўлены біяграфічны матэрыял, публікацыі пра славутага даследчыка гісторыі Браслаўшчыны, калекцыя яго кніг. Дарэчы, музей валодае адной з самых поўных у Беларусі падборак прац О.Гедэмана, якая складаецца з арыгіналаў і ксеракопій. Першая экскурсія па выставе была праведзена для супрацоўнікаў музея і сяброў краязнаўчага таварыства.



Браслаўскае краязнаўчае таварыства з дапамогай Віцебскага аддзялення фонда Л.Сапегі выпусціла памятную паштоўку, прысвечаную О.Гедэману. Наклад склаў 100 асобнікаў. Частка наклада была праштэмпелявана ў Браслаўскім аддзяленні сувязі 16 мая, у гадавіну смерці гісторыка.



Жыхар Варшавы, нараджэнец Браслаўшчыны, Станіслаў Пятушка падараваў музею падборку кніг, сярод якіх найбольш цікавымі з'яўляюцца: зборнік паэзіі Наталлі Арсенневай "Сягоння" (Менск, 1944 г.), зборнік паэзіі Ларысы Геніюш "Ад родных ніў" (Прага, 1942 г.), зборнік "Беларусь у песнях" (Берлін, 1942 г.), праца Адама Віслоцкага "Па рэках і азёрах Браслаўшчыны" (Вільня, 1934 г.), адбітак у цвёрдай вокладцы "Друя" з манаграфіі О.Гедэмана "Дзісна і Друя магдэбургскія гарады" (Вільня, 1934 г.).



13 траўня ў Мінску, у выставачнай зале Музея кіно, адбылася вечарына, наладжаная Цэнтрам па правах чалавека. Асноўнай дзеяй вечарыны было адкрыццё выставы двух маладых мастакоў – братоў Уладзіміра і Паўла Кандрусевічаў. Уладзімір Кандрусевіч, які працаваў на Браслаўшчыне ў 2001 годзе, выставіў некалькі прац, на якіх паўстаюць пейзажы і людзі азёрнага краю. Пачэснае месца на выставе заняў партрэт легендарнага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута. У рамках вечарыны прысутныя маглі пазнаёміцца з выставай выданняў Браслаўскага музейнага аб'яднання і краязнаўчага таварыства. Іх прадстаўляў удзельнік імпрэзы Кастусь Шыдлоўскі.



# БРАСЛАЎСКІЯ ЗАРНІЦЫ -2002

2 чэрвеня прайшло традыцыйнае свята "Браслаўскія зарніцы". Упершыню яно адбывалася пад эгідай еўрарэгіёна "Азёрны край", які аб'ядноўвае суседнія землі Беларусі, Латвіі, Літвы. Удзельнікамі фестывалю былі фальклорныя калектывы Браслаўшчыны, Зарасая, Ігналіны (Літва), Даўгаўпілса, Краславы (Латвія), Новалукомля (Беларусь), тэатр гістарычнага касцюма з Полацку "Жалезны воўк", прысутнічала невялікая дэлегацыя з Нарвегіі.

У рамках фестывалю спецыялісты Браслаўскага музейнага аб'яднання і іх сябры разгарнулі экспазіцыю "Даўнія рамёствы". Наведвальнікам дэманстраваліся тэхналогіі вырабаў розных прадметаў, характэрных для сярэднявечча. Ганчар Валеры Зінкевіч працаваў на коле канструкцыі XII-XIII стст, ткалля Антаніна Кавалык дэманстравала вертыкальны ткацкі станок. Тэхналогіі вырабаў з лазы і травы паказвалі Таццяна Цімошкіна і Тамара Ундруль, з бяросты - Людміла Пупіна, спіральнага пляцення - Зоя Кальцова, са скуры - Валянціна Валушка. Людміла Рулевіч займалася









пляценнем паясоў на дошчачках, а Ірына Шыдлоўская – прадзеннем на верацяне. Аляксандр Курбан вырабляў неабходны кожнай гаспадыні інвентар – лыжкі, гарнцы. Можна было пазнаёміцца з пісьмовымі прыналежнасцямі XI-XII стст. – пісаламі і дошчачкамі з нанесеным слоем воску (цэрамі). Іх дэманстравалі Кастусь і Яна Шыдлоўскія. Працавалі жорны. Гаспадар Андрэй Юдзевіч даваў магчымасць паспрабаваць паспытаць гэтай працы ахвочым. Ля спецыяльна складзенага ачагу завіхалася гаспадыня Эла Зінкевіч з маленькімі дапамагатымі – Насцяй і Аляксандрай. Духмяныя ляпёшкі, каша, бабы былі неверагоднымі па смаку.



Усе ўдзельнікі дзеі былі апрануты ў адмысловыя касцюмы з гістарычнымі ўпрыгажэннямі.

Экспазіцыя карысталася вялікай цікавасцю ў гасцей свята.

# ВЕСТКІ

13 траўня Браслаўшчыну наведала дэлегацыя шведскіх археолагаў на чале з прафесарам І.Янсанам. Дэлегацыю суправаджаў гісторык з Мінска Сяргей Дзярновіч. Гасцей цікавіла гарадзішча Маскавічы, дзе знойдзены сляды варагаў – упрыгожванні і рунічныя надпісы. Шведы наведалі музей, дзе пазнаёміліся з экспанатамі, знойдзенымі на гарадзішчы. Асаблівую цікавасць навукоўцаў выклікала ўнікальная варажская роўнаплечая фібула, аналагаў якой няма ў Беларусі.



Ва ўрочышчы Гліноўка, непадалёку ад в.Луні, устаноўлены памятны крыж з мемарыяльнай таблічкай. Гэты помнік устанавіў у гонар сваіх продкаў Нарушэвічаў жыхар Польшчы Альгерд Ортыль. Ён жа аўтар памятнага тэкста:

*Памяці маіх продкаў...*
*Тым, хто здаўна жыў і працаваў на гэтай зямлі,*
*Тым, каго віхуры гісторыі цяжкай*
*Радзімы пазбавілі назаўсёды любай,*
*На ўспамін былых гадоў...*
*І няхай блаславіць Божа гаспадароў цяперашніх*
*...Крыж гэты пастаўлены.*

Тэкст зроблены на польскай мове, але пан Альгерд мяркуе прывезці ў наступны прыезд таблічку з беларускім тэкстам. ***(Пакуль рыхтаваўся гэты нумар пан Ольгерд здзейсніў свой намер - Рэд.)***



18 траўня Браслаў наведаў вядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін. Планавалася, што ён выступіць перад вучнямі і настаўнікамі Браслаўскай гімназіі і перад аўдыторыяй у гарадскім доме культуры. Прыезд паэта, які вядомы сваімі апазіцыйнымі поглядамі да існуючага рэжыму напалохаў начальства. Вучняў гімназіі адпусцілі з заняткаў дахаты, а паэта віталі "шасцёркі" з самакіравання. Г.Бураўкін змог сустрэцца толькі з настаўнікамі. Не прыйшлі на сустрэчу ў РДК і папярэдне запрошаныя вучні іншых школ Браслава. Чыноўнік, які забяспечыў такую сустрэчу з паэтам, па традыцыі пажадаў застацца невядомым.



У чэрвені на Браслаўшчыне пачнуць працу дзве археалагічныя экспедыцыі. Экспедыцыя Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам Аляксандра Егарэйчанкі працягне даследванні гарадзішча Рацюнкі, каля вёскі Літоўшчына. Супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Сяргей Дзярновіч будзе кіраваць раскопкамі на гарадзішчы Маскавічы і на гарадзішчы каля вёскі Слабодка.

# БРАСЛАВУ

***Жыхарка Рыгі Вера Баладэ шчыра любіць свой родны Браслаў, заўсёды цікавіцца яго апошнімі навінамі, падтрымлівае сувязь з музеем, перапісваецца з нараджэнцамі Браслава, якія жывуць у розных краінах света, піша вершы. У рэдакцыю "Павета" яна даслала віцанне землякам у сувязі з Днём Перамогі. Друкуем гэты матэрыял са спазненнем, але са спадзяваннем, што ён будзе дарэчы ў сувязі з набліжэннем дня вызвалення Беларусі ад гітлераўцаў.***

20 красавіка 2002 года.

Добры дзень, мой дарагі – Браслаў!* Горад майго дзяцінства і юнацтва.

Карыстаючыся выпадкам, дазвольце мне, у гэтыя цёплыя сонечныя вясеннія дні, павіншаваць усіх жыхароў з днём – ПЕРАМОГІ! І, ад усёй душы пажадаць свайму народу, у яго паўсядзённым жыцці, многа сіл і энергіі, моцнага здароўя, радасці і шчасця!

Куды б нас не раскідаў лёс па свету, але горад мы свой, памятаем і любім. Нам, ветэранам, не забыцца гэту – беларускую зраненую зямлю снарадамі і свой народ, так прыгнечаны. Масавае знішчэнне беларусаў, адпраўка іх у Германію, на цяжкія работы, растрэлы мірных жыхароў, яно адлюстравалася ў нашых дзіцячых вачах – пажыццёва. Палілі фашысты нашы беларускія вёскі, разам з жыхарамі, не шкадуючы ні старых,ні малых! Колькі слёз вылілася ў народа. Бедныя беларусы, такога зверства, якое прыпаднясла – вайна, з фашыстамі, беларусы не заслужылі... Гэта быў, добры шчыры народ, які ў такіх цяжкіх абставінах сам жыў і выратоўваў, яўрэяў, партызан, дзелячыся апошнім кавалкам хлеба. Слава нашаму народу! Слава – за мужнасць і геразім!

Вясной 1945 года, у наш горад, прыйшла Перамога. Чатыры гада пад ігам фашызму, народ не мог паверыць, што "немцу-капут" – доўга яшчэ людзі заседжваліся ў зямлянках, баючыся выходзіць, на паверхню! Доўга яшчэ ў душах людзей, не пераставаў заціхаць гул самалётаў, якім былі так людзі напужаны...

Пра Перамогу першым нам паведаміў сакратар райкома партыі т.Грынюк – які павіншаваў жыхароў з днём "ПЕРАМОГІ" у Браславе.

Ён, з радасцю вымаўляў: Наша, Перамога, таварышы – наша!!!

З прывітаннем да ўсіх жыхароў Браслава – В.Баладэ Рыга.

* Правапіс арыгінала.

*Шмат краязнаўчай інфармацыі можна сустрэць на старонках Internet. Менавіта такім чынам удалося адшукаць звесткі пра невядомага раней краязнаўцам і музейным спецыялістам анархіста-камуніста Іосіфа Блейхмана, нараджэнца Відзаў.*

### Блейхман Іосіф Саламонавіч

Блейхман (псеўданім М.Сонцаў) Іосіф Саламонавіч (1868, м.Відзы Новааляксандраўскага п. Ковенскай губерні, – 1921, Масква). З мяшчан. Нарыхтоўшчык цэха па пашыву ботаў. З 1904 анархіст-камуніст. Да верасня 1913 у г. Дзвінск, затым да ліпеня 1914 г. у Пецярбургу вёў прапаганду анархізма ў прафесійных саюзах краўцоў, булачнікаў, кажэўнікаў. У 1914 арыштаваны, сасланы ў Сібір.

У 1917 г. лідэр Петраградскай федэрацыі анархістаў-камуністаў, удзельнік Лютаўскай рэвалюцыі. Член Петраградскага і Кранштадскага Саветаў РСД (з сакавіка). 22 мая выступіў на паседжанні Петрасавета па пытанню пра становішча ў Кранштаце; падтрымаў пазіцыю міністраў-сацыялістаў І.Г.Цэрэтэлі, У.М.Чарнова, М.І.Скобелева, якія асудзілі рашэнне Кранштадскага Савета аб прыняцці ўсёй паўнаты ўлады выключна ў свае рукі, прапанаваў прыняць рэзалюцыю, якая адвяргала пастанову Савета (канчатковае рашэнне пытання было адкладзена). Адзін з кіраўнікоў захопа 5 ліпеня анархістамі газеты "Руская Воля". 2-3 ліпеня ў 1-м кулямётным палку вёў агітацыю за ўзброенае выступленне супраць Часовага ўрада і гвалтоўны захоп улады; 3 ліпеня быў дакладчыкам на палкавым мітынгу і садзейнічаў прыняццю рэзалюцыі аб узброеным выступленні. Удзельнік узброенай дэманстрацыі 4 ліпеня. У Кастрычніку змагаўся за ўстанаўленне Сав. улады, чл. Петрагр. ЧРК з 28 кастр.

18 студз. 1918 быў назіральнікам ад анархістаў на Сходзе ўпаўнаважаных фабрык і заводаў Петраграда, які меў на мэце стварэнне сістэмы антыбальшавіцкіх рабочых арганізацыйцый. Член і сакр. Петрагр. федэрацыі анархіч. груп (1917–1919 гг.), адначасова (па інш. дадзеных, 1917 – красав. 1918 г.) чл. Маск. федэрацыі анархіч. груп. З сакавіка 1918 г. дабраахвотнік Чырвонай Арміі. У 1920 г. старшыня Маскоўскага прафесійнага губаддзела; у кастр. арыштаваны разам з групай анархістаў па падазрэнню ў сувязях з Н.І. Махно: пасля допыта вызвалены. Па інш. дадзеных, арыштаваны ў 1918 г., сасланы на прымусовыя, лясныя работы, атрымаў там хваробу лёгкіх і намёр у Маскве ў 1921 г. (гл.: Порелик А., Комов В., Волин. Гонения на анархизм в Сов. России, Берлин; 1922, № 1, с 29).

Выкарыстаны матэрыялы артыкула У.У.Крывенькага ў кн.: Политические деятели России 1917. биографический словарь. Москва, .1993.

# ВЕСТКІ

МЁРШЧЫНА

Адбылося ўрачыстае адкрыццё ўноў адрэстаўраваных магіл сапёраў польскай арміі, пахаваных на старых гарадскіх могілках у Мёрах. Яны загінулі ў 1920 годзе ў барацьбе з бальшавіцкай Расіяй. Частка надгробкаў пад час панавання камуністаў (каля 20) была знішчана, засталося каля 10. Новыя надгробкі пры вялікай прысутнасці мясцовага насельніцтва ўрачыста асвяціў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел прадстаўнікі пасольства Польшчы на Беларусі, мясцовыя ўлады.



Экспазіцыя гісторыка-краязнаўчага музея СШ № 3 г.Мёры папоўнілася манетамі са скарба XVII ст. Сам скарб быў знойдзены ў Талочынскім раёне ля в.Мікуліна яшчэ дваццаць год таму назад. У музей манеты былі перададзены настаўнікам хіміі Ляшуком Сяргеем Леанідавічам, бацька якога і знайшоў гэты скарб. Усе манеты - гэта соліды Крысціны Вазы 1643 – 1653 гг., адчаканеныя ў Рызе.



Адбылася сустрэча з вядомым беларускім пісьменнікам Кастусём Тарасавым. На сустрэчы прысутнічалі настаўнікі, вучні, грамадскасць раёна. Пісьменнік падзяліўся разважаннямі аб сваёй творчасці, дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі Беларусі, планамі і творчымі задумамі. Удзельнікі сустрэчы маглі набыць апошнюю кнігу К.Тарасава "Крыж памяці, меч лесу" і ўзяць аўтограф у пісьменніка.



**Перадача акта на вечнае карыстанне зямлёй. Браслаўшчына. 40-я гады XX ст.**

# НАПАЧАТКУ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

*Дырэктар Занальнага дзяржархіва ў г.Маладзечна Расціслаў Герасімовіч даслаў Браслаўскаму музею экзэмпляр кнігі "Аграрные преобразования в Вилейской области 1939 – 1941 гг. Документы и материалы." (Мінск, 2001). Гэта сумеснае выданне шэрага архіўных устаноў Беларусі, выпушчанае тыражом усяго толькі 100 экзэмпляраў. Зборнік складаецца з цікавейшых дакументаў, якія паказваюць супярэчлівы характар аграрных пераўтварэнняў на землях былой Заходняй Беларусі. Шмат дакументаў датычыцца Браслаўшчыны і Мёршчыны. Перадрукоўваем адзін з дакументаў. Азнаёміцца з кнігай можна ў бібліятэцы музея.*

№32*

**Докладная записка прокурора Браславского района А.Ф. Гусева в райком КП(б)Б о фактах бесхозяйственности в колхозах района**

*г. Браслав* *12 марта 1941 г.*

Прокуратурой проверены три колхоза в части подготовки их к весеннему севу. Проверкой установлено. В колхозе "Красная Звезда" Залесского сельсовета 5 пароконных плугов отремонтированы, отремонтированы 8 борон. Хомуты и другая упряжь еще не ремонтируются, что пред. колхоза объясняет отсутствием шорника, войлока и т. п. К ремонту телег колхоз не приступал, пред. колхоза объясняет, что нет для ремонта железа и негде купить. Семенами колхоз обеспечен, за исключением вики и клевера. Семена только отсортированы, на всхожесть не проверены. Тягловая сила в колхозе – кони – имеют среднюю упитанность. За лошадьми нет надлежащего ухода, лошади грязные, не чистятся, на жеребятах в возрасте 1 года шерсть, как на козлах.

В колхозе имени Молотова такая бесхозяйственность, что требует немедленного вмешательства в дела колхоза райкома партии. Состояние животноводства в колхозе находится в самом плохом виде. Лошади истощены, не чистятся, грязные. Лошади обезличены между конюхов, а также и среди колхозников. Есть факты, когда колхозники самовольно берут лошадей из конюшни для личных надобностей и после того, как этот колхозник отказался поехать на лесовывозку. Конюхи не имеют щеток и скребниц для чистки лошадей и, несмотря на обращение их к председателю колхоза и животноводу, последние не обращают на это внимания. В конюшне грязь, кормушек нет, лошади привязываются прямо за шею веревкой, что не исключает возможность удушения лошадей. Не все лошади отгорожены одна от другой, а если и есть ограда, то они перепрыгивают свободно, т. к. очень много скопилось навоза. В конюшне, где кладется сено, туда и заходят лошади, которые ходят по всему сену и топчут. Рогатый скот также истощен, кормушки поломаны. В настоящее время проходит массовый отел, для чего не оборудовано специальное помещение, с тем, чтобы до отела и после отела отделять коров от общего стада на некоторое время. В день проверки оказалось, что корова буквально после нескольких часов после отела стоит на общем дворе против ворот, на самом сквозняке, и стоит сгорбившись. Зав.фермой, будучи на скотном дворе, на это никак не реагирует. Кроме того, здесь же, на общем скотном дворе, сделана деревянная клетка, где находятся 5 молодых телят. Причем эта клетка также расположена против ворот, следовательно, телята могут быть простужены от сквозняка. В таком же положении телята находятся и в телятнике, например, телята в возрасте 1 года стоят в более теплом и лучшем месте, чем телята отела текущего года, которые стоят также против ворот, а стена наружная имеет большие щели, в которые сильно сквозит ветер.

Свиньи настолько грязные, тощие, что сразу невозможно определить, что это за животное. Правда, когда я посмотрел этих свиней, имел в виду поругать свинарку, а после этого решил посмотреть, как же живет сама свинарка, и пошел к ней на квартиру, и что же оказалось. Свинарка – Петушко София Анновна, 1915 г.рождения, имеет трех детей в возрасте 7, 6 лет и 7 мес[яцев], мужа не имеет и не имела, алиментов ни с кого не получает, живет одна с этими детьми в свинарнике. Я постараюсь описать это помещение. Большой деревянный сарай, в котором помещаются свиньи. В конце этого сарая отгорожено место, где для свиней готовится корм, там стоит котел, где варится картофель, свёкла. Русской печи там нет, пола нет, есть окно с разбитыми стеклами, там же лежит картофель, свёкла, мука. Там и дрова, и здесь же стоит стол и деревянная кровать с

лохмотьями. Причем вход в это помещение такой: нужно сначала войти через ворота в свинарник, пройти весь свинарник, а потом можно попасть туда, где живет свинарка. После того, как я посмотрел, как она живет, так не только нужно ее ругать за грязных свиней, а наоборот, нужно ей показать, как должен жить человек, с тем, чтобы она могла видеть и различать грязь от чистого, а она этого не видит, т.к. у нее одинаково грязно, где она живет и где ее находятся маленькие дети, такое же положение в свинарнике. Меня поразило, как это могло случиться под боком и на глазах МТС, сельсовета и зав.райзо тов.Козловского, который неоднократно был в этом колхозе. Я предложил председателю колхоза немедленно предоставить свинарке помещение для жилья. Кроме того, принял соответствующие меры к розыску отцов ее детей с тем, чтобы оказать ей помощь, взыскать с них алименты. Считал бы необходимым поставить вопрос перед райисполкомом об оказании Петушко материальной помощи.

Семенами колхоз обеспечен, семена еще не очищены, на всхожесть не проверены, клевер еще не обмолочен. Телеги поломаны, разбросаны и не ремонтируются. Хомуты порваны, не ремонтируются, обезличены. Жатка находится в снегу, заржавела. В беседе с колхозниками последние заявляют так, что "у нас нет головы", это значит, что у них нет пред. колхоза и весьма пред. колхоза недовольны. Следует отметить, что доярки заявили, что зоотехник был в колхозе всего один раз, но с ними не разговаривал, а ветврача они в глаза не видели.

В колхозе им. 1 Мая можно отметить, что там пред. колхоза хозяйственный человек, хотя он и работает одну неделю, имеет подход к колхозникам, и сейчас подготовка к севу идет неплохо. Семена послали на анализ, добывают торф, инвентарь – плуги, бороны отремонтированы, ремонтируются и телеги. На конюшне, на скотном дворе надлежащий порядок. Правда, лошади чистятся плохо, коровы не чистятся, грязные прошлогодние телята находятся в весьма тесном помещении и один из них болеет лишаем, но от других не отделен. Зоотехники, ветврачи в колхозе не бывают – так заявляют колхозники.

Свиньи находятся не в плохом состоянии в части ухода, помещения и упитанности. Две свиноматки опоросились, у одной из 12 штук 4 пало, о чем райзо не знает и наоборот, зоотехник, докладывая на исполкоме о состоянии животноводства, говорил, что падежа поросят в колхозах нет.

Прокурор Браславского района Гусев.

*ЗГА в г. Молодечно, ф.60, оп.1, д.390, л.1-3.*

* Друкуецца на мове арыгінала.

## Выдавецкія навіны




Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку выпусціла кнігу ўспамінаў нашага земляка, нараджэнца вёскі Цяцеркі, вядомага этнографа і выдатнага беларускага дзеяча Мар'яна Пецюкевіча (1904-1983). Кніга мае сімвалічную назву "Кара за службу народу" і ўяўляе ўспаміны М.Пецюкевіча пра ссылку ў Сібір (пасёлак Ужур Краснаярскага краю). На чужыну слаўны сын браслаўскай зямлі быў сасланы за сваю нацыянальна-грамадзянскую дзейнасць на карысць беларускага народу.Успаміны да друку падрыхтавала даследчыца з Гданьску Алена Глагоўская. (Наша выданне друкавала яе матэрыялы пра П.Сергіевіча і М.Дварэцкага.) Ва ўводзінах даследчыца адзначае, што рукапіс ўспамінаў яна атрымала ад дачкі Мар'яна Пецюкевіча Міраславы ў 1999 г. Адразу звярнула ўвагу даследчыцы тая акалічнасць, што аўтарскія ўспаміны Пецюкевіча не падобны да аналагічных занатовак пра рэпрэсіі. У першую чаргу аўтар запісваў ураженні аб невядомым яму кавалачку зямлі. Паводле словаў А.Глагоўскай "Мар'ян Пецюкевіч з жарсцю этнографа апісвае жыццё Сібіры, людзей розных прафесіяў, чыноў і нацыяў, святы і абрады, сібірскую прыроду ... Аўтар малюе тыпы людзей і іх характары ..." Чытаюцца ўспаміны вельмі лёгка і яны будуць карыснымі ўсім, каго цікавіць постаць Мар'яна Пецюкевіча.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •




Бібліятэка Браслаўскага музея папоўнілася новым выданнем па гісторыі Браслаўшчыны – кнігай Юзафа Чэкана "Гісторыя Браслаўскага павета XX стагоддзя". Кніга выпушчана ў Кентштыне (Польшча), дзе жыве аўтар. (Асобнае выданне ў музей ласкава даслаў Ю.Далецкі з Жэшува) Ю.Чэкан – нараджэнеец Браслаўшчыны, удзельнік польскага супраціўлення ў гады другой сусветнай вайны. Цяпер ён узначальвае агульнапольскае Таварыства выхадцаў з Браслаўшчыны. У 1995 г. у Быдгашчы была выдадзена першая кніга Ю.Чэкана "Жыццё акаўца".

Прадмову да новай працы Ю.Чэкана напісаў вядомы гісторык, прафесар Торуньскага ўніверсітэту Станіслаў Александровіч, род якога паходзіць з Браслаўшчыны. Ён адзначыў, што новае выданне з'яўляецца своеасаблівым працягам манаграфіі славутага даследчыка мінулага Браслаўшчыны О.Гедэмана "Гісторыя Браслаўскага павета" і што галоўнай крыніцай для напісання кнігі з'явіліся ўспаміны ўдзельнікаў падзей на Браслаўшчыне ў XX ст. Сапраўды, сам Ю.Чэкан быў сведкам жыцця Браслаўскага павета ў 20-30-я гг., змагаўся з гітлераўцамі, памятае пасляваенныя рэпрэсіі. У кнізе скарыстаны матэрыялы Ю.Баброўскага з Англіі, У.Юркевіча з Галандыі, Ф.Крывеля з Браслаўшчыны, друкаваныя раней ўспаміны З.Янушкевіча – былога старосты Браслаўскага павета і інш. Выкарыстанне толькі ўспамінаў для падрыхтоўкі выдання, абумовілі яе суб'ектыўны характар. Сур'ёзныя даследванні па гісторыі Браслаўшчыны, якія грунтуюцца на архіўным матэрыяле (як у О.Гедэмана) яшчэ наперадзе.

Кніга аздоблена вялікай колькасцю фотаздымкаў, у т.л. і гістарычных. Большасць іх паходзіць са збораў З.Янушкевіча, якія зберагаюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Да выдання дакладаюцца 4 аркушы якасных каляровых копій даваенных карт Браслаўскага павета, якія будуць вельмі карыснымі для ўсіх каго цікавіць мінулае Браслаўшчыны.

## Выдавецкія навіны




*Архіў Найноўшай Гісторыі пры ГА "Дыярыуш" (Мінск) даслаў кнігу "Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920 – 1950-я гг. у Заходняй Сібіры (укладальнік Ігар Кузняцоў)". Кніга распачынае серыю "Беларускі Індэкс Рэпрэсаваных". Гэта паіменны спіс ураджэнцаў Беларусі, якія былі рэпрэсаваны на тэрыторыі сённяшняй Томскай і Навасібірскай абласцей Расійскай Федэрацыі. У ім – 1261 прозвішча. Мы падаем звесткі пра нараджэнцаў Браслаўшчыны:*

10. Аўкштоль Станіслаў Усцінавіч, 1900 г., нарадзіўся ў вёсцы Барадзінічы Віленскай губ., пражываў у вёсцы Канстанцінаўка Ламавіцкага с/с Асінаўскага р-на Навасібірскай вобл., аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

78. Бабуль Іосіф Вікенцьевіч, 1869 г., нарадзіўся ў вёсцы Бабулі Богінскай воласці (Дзісненскага павета) Віленскай губ., пражываў у Асінаўскім р-не, член калгаса "Памяці Кірава". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

185. Буткевіч Павел Андрэевіч, 1876 г., нарадзіўся ў г. Друя Віленскай губ., пражываў у вёсцы Н-Аляксандраўка Крывашэінскага р-на, святар. Арыштаваны ў 1933 г. Пазбаўлены права пражывання ў 12 кропках Уральскай вобл., Томскім і Нарымскім акр. з замацаваннем тэрмінам на 3 гады.

577. Качаргінскі Зэльма Якаўлевіч, 1912 г., нарадзіўся ў мястэчку Відзы Віленскай губ., пражываў у г.Томску, інструктар фізкультуры на будаўніцтве чыгункі Томск - Чулым. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

990. Самсонаў Рыгор Кірылавіч, 1892 г., нарадзіўся ў г.Друя Дзісненскага павета Віленскай губ., пражываў і працаваў дырэктарам абласнога дома інвалідаў. Арыштаваны ў жніўні 1938 г. Вызвалены ў чэрвені 1939 г. - апраўданы па суду.




Рэкламна-выдавецкая фірма "Ковчег" (Мінск) накладам 500 асобнікаў выпусціла зборнік вершаў браслаўчаніна Яўгена Расалая "Жить с надеждой" (104 с.). Зборнік пачынаецца прадмовай Я.Расалая, у якой аўтар прыводзіць біяграфічныя звесткі, згадвае людзей, якія аказалі на яго найбольшы ўплыў. Кніжка мае раздзелы: "Браслаўшчына", "Бацькоўскай хаце", "І няхай каханнем сэрца адгукнецца", "Быць патрыётам, як і раней". 16 красавіка ў Гарадскім доме культуры адбылася прэзентацыя зборніка. У ёй браў удзел вядомы беларускі кампазітар Ігар Лучанок, з якім Я.Расалая звязваюць сяброўскія адносіны.

*ЗАМКОВАЯ ГОРА*

*Вы как-то посетили Замковую гору*
*И по периметру ее восторженно прошли.*
*Тут частокол дубовый в древнюю был пору,*
*А городище населявшие красоты эти берегли.*

*Здесь, по легенде нам известной, княжил Брас,*
*Возлюбленной Рогнеды коварством возмущенный,*
*Он повелел построить «крепость-глаз»,*
*Браславским городищем нареченной.*

*Бывали многие на этом возвышеньи,*
*И болты, Полоцкой Руси форпост.*
*Князь Александр Магдебургское тут дал благословенье, —*
*Так зародился Браслав в полный рост.*

*Семь зорных башен древней той поры*
*У озера Дрывяты крепость сторожили.*
*Княжна Алена, дочь Ивана-три,*
*Здесь женский монастырь духовный заложила.*

*Озерное могущество с неё ласкает и манит.*
*Костел в процессе службы часто ей звонит.*
*Сражения Тадеуша Костюшки Замковая помнит*
*И Нарбута священный прах в себе хранит.*

*Фантазию холма ледник пришедший сотворил.*
*К нему озера лазурной красотой приставил,*
*А живший здесь народ гору боготворил*
*И память каждый, повидав её, себе оставил.*

**Юрка Віцьбіч**

# БРАСЛАЎ НАШ ПРЫ ВАЗЁРАХ

**У часопісе "Спадчына" (№5-6, 2001 г.) надрукавана частка працы Юркі Віцьбіча "Наша спадчына прамаўляе", у якой ёсць раздзел "Браслаў наш пры вазёрах". Юрка Віцьбіч, сапраўднае імя Георгій Шчарбакоў (1905-1975) – беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. У пасляваенныя гады жыў і працаваў у ЗША. Яго імем названа бібліятэка ў беларуска-амерыканскім грамадскім цэнтры "Белор-Менск" пад Нью-Йоркам. Тэкст "Наша спадчына прамаўляе" датаваны 1970 г.**

Пры ўспаміне пра гэты маляўнічы горад, якому адпавядае такое ж прывабнае наваколле, адразу прыгадваецца паэтычнае сьветчаньне ўзвышэнца Ўладзімера Дубоўкі:

*Браслаў наш пры вазёрах,*
*І вазёры ў Міёрах,*
*А падобных вазёр*
*Ты ня знойдзеш нідзе.*

А зь ім перагукваецца другі ўзвышэнец Максім Лужанін:

*Каля Браслаўскіх сініх вазёр*
*Гусі-лебядзі мыліся,*
*Паглядзі ў прастор,*
*Ці дарог не забыліся.*

Бадай на 50 кілямэтраў працягнуўся з паўдня на поўнач ланцуг з трох дзесяткоў блакітных вязьмаў – вялікіх і малых Браслаўскіх вазёраў, зь якіх найбольшыя Дрывяты, Несьпіш, Струста, Снудры й крыху ў баку ад іх Волас. Паміж іх найвялікшае Дрывяты, што займае прастор бяз мала 40 квадратных кілямэтраў, а найглыбейшае Волас, да дна якога 39 мэтраў. Вада ў іх надзвычай празрыстая й блізу заўсёды неспакойная, а ў часе навальніцаў белыя хвалі з шумам разьбіваюцца аб стромкія й зьвілістыя берагі. І шмат утульных астравоў на тых вазёрах, якія злучае разам рака Друйка, што ў Друі далучаецца да роднае Дзьвіны.

Як мур, абаранілі Браслаўскія вазёры Полаччыну, а найбольш шырокі пярэсмык паміж іх замыкаў Браслаў, што ў 1965г. адсьвяткаваў сваё 900-годзьдзе. Заснаваў яго на папялішчы ранейшае сялібы ўнук Рагнеды й бацька Ўсяслава Чарадзея князь Брачыслаў, надаўшы яму сваё ймя. Зь цягам часу ў гэтым назове выпаў сярэдні склад, і ён зьначыўся на Браслаў. Прыгранічнае палажэньне спрычыніла яму шмат ліха. Гэтак, з "Хронікі Быхаўца" ведаем, што ў 1065 г. літоўскі князь Кернус зруйнаваў Браслаў, а 400 год па тым Сьвідрыгайла дачакаўся тут магістра Лівонскага, каб разам пайсьці супраць грознае Літвы, але перашкодзіла таму, як даволі гіранічна зазвачыў летапісец, залева. Горад неаднойчы руйнавалі крыжакі, у 1550 г. разбурылі яго дашчэнту крымскія татары, 100 год па тым спалілі стральцы цара Аляксея Міхайлавіча, але заўсёды ён змагаўся да апошняга. Наагул для гісторыі Браслава характэрны ягоны старадаўны герб: чалавечае вока на блакітным трохкутным шчыце ў залатых сонечных праменьнях, дзе вока сымбалізавала сабой прымежную пільнасьць, а ў колеры шчыта адбіўся блакіт вазёраў.



**Уладары Браслава - Вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык і яго жонка Алена.**
*Фрагмент гравюры з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі». А.Гваніні. 1611 г.*

Горад ляжыць на пярэсмыку паміж вазёрамі Дрывяты й Наваты, узвышаючыея над імі на 30 мэтраў і прыгожым амфітэатрам спушчаецца да іх. І найвышэйшае месца ў ягоным цэнтры ведамае пад назовам Замкавае гары. Да XVII ст. на ёй, паводле малюнку да карты Макоўскага ад 1613 г.,існаваў мураваны замак з 3-ма вежамі, ад якога не засталося цяпер і рэштак. Калі ў 1955 г. знаны археалёг Л.Аляксееў дасьледаваў тутэйшае замчышча, ён удакладніў, што горад запраўды заснаваў Брачыслаў, а перад ім тут жылі латыголы. Паміж шмат якіх рэчаў, адкапаных на Замкавай гары, знайшлі й рыбацкія прылады, што вельмі ўсьцешыла сучасных рыбакоў, і льлячкі для ліцейнага рамяства, і тагачасныя асадкі — "пісалы", як довад пісьменнасьці прашчураў, але найбольш траплялася зброя – стрэлы, дроцікі, мячы й баёвыя сякеры.

З вышыні Замкавае гары адкрываецца незабыўны краявід, аздоблены вазёрамі й лясамі. Аж за 10 кілямэтраў бялеецца Слабодзкі касьцёл. Зянон Панізьнік (**на самай справе Зянон Пазьняк - Рэд.**)у нарысе "Браслава", зьмешчаным у леташнім №9 "Маладосьці", прыгадвае ўражаньне амэрыканскага падарожніка ад яго (цытую): "Калі я на раніцы пры ўсходзе сонца глядзеў на Слабодзкі касьцёл, прыгажэйшага віду ў Эўропе я ня бачыў", і дадам, што кованыя завесы й клямары гэтага касьцёлу, як і сьцены касьцёлу ў недалёкіх ад яго Дрывятах, маюць беларускі геамэтрычны арнамэнт. Тут жа на Браслаўшчыне, у Мяжанах і Дрысьвятах, захаваліся старадаўныя касьцёлы, помнікі бечарускага драўлянага дойлідства. Заслугоўвае на вялікую ўвагу базыльлянскі барокавы кляштар у Друі (**бернардзінскі кляштар - Рэд.**), пабудаваны на пачатку XVII ст., як і аднachасны яму й таксама барокавы касьцёл у Пядруі, прычым у гэтым апошнім проста не даеш веры, што хваёвым бязь ніводнае шчыліны бэлькам над скляпеньнем ужо 350 год, а клямкі дубовых дзьвераў, зьбітых кавальскімі цьвікамі, зробленыя паводля вузору, звычайнага для вакольных вясковых хатаў.

А наагул на Браслаўшчыне зь ейнымі сьпічастымі дахамі пераважаюць готыка й барока, але разам з тым ня толькі на будынкі рэлігійнага прызначэньня пашыралася тут таленавітасьць народу. Яна адбілася навет у калодзежах, што сям-там сваёй будовай нагадваюць капліцы, але найбольш цікавы каменны млін у вёсцы Зарачча, пабудаваны ў 1882 г. на рэчцы паміж вазёраў Бужа й Рача. Ягоная белая сьцяна, аздобленая птушкамі, кветкамі й жаўнерамі з узьнятымі шаблямі, а ўсё гэта зроблена з кавалачкаў пасечанага чорнага палявога каменя. Каменная мазаіка вельмі пасуе да ўсяго стагадовага млiна, складзенага зь вялікіх камянёў. І можа не працуе сёньня гэты млін, бо мацнейшая сіла круціць цяпер жорны, але, як заслужаны вэтэран, любоўна ўпрыгожаны калісьці ўдзячнымі тубыльцамі, ён заслугоўвае на ўвагу й ахову.

І хай сабе спыніліся ягоныя жорны, але ўсё роўна, зірнуўшы на яго, згадваецца народжаная вадзяным млінам жыцьця-сьцьвярджальная мэлёдыя цудоўнага Франца Шубэрта:

*Кружаццa жорны і шумяць,*
*Кружацца.*

Ня ставіў стары Браслаў помнікаў ні каралём, ні царом, ні іншым дзяржаўным правадыром, а паставіў на сваёй Замкавай гары абэліск з напісам: "Памяці Станіслава Астыка Нарбута тут пахаванага. Жыхары Браслаўскага павету. 1852—1926". Гэта быў выпучнай дабрыні доктар, які аднолькава ставіўся да ўсіх бяз увагі на нацыянальнасьць, веравызнаньне й сацыяльны стан. Зь беларусам ён размаўляў па-беларуску, з паляком – па-польску, а калі лячыцца да яго трапляліі яўрэй або расеец, дык гутарыў зь імі па-іхнаму. Апрача ўважлівае мэдычнае дапамогі, доктар Нарбут падтрымліваў хворых заўсёды уласьцівым яму добрым гумарам, а бедных ня толькі лячыў дармова, але часамі дапамагаў ім грашыма. На свае сродкі ён пабудаваў тут вялікую больніцу, што стаіць і цяпер. Таму, калі самотны ў сваім прыватным жыцьці Станіслаў Нарбут памёр, аплаканы ўсімі, і дарослымі й дзецьмі, яго пахавалі на Замкавай гары, дзе ён любіў у часе кароткага адпачынку сядзець і глядзець удалеч на вазёры й лясы. А на абэліску зьмясьцілі вялікі ліхтар, якога сьвятло відаць было за 10 кілямэтраў. Навет памёрлы ўжо, датамагаў уначы доктар Нарбут рыбаком на бліжэйшых і аддаленых вазёрах знайсьці дарогу ў цемры да сваіх хатаў.

Замкавая гара ў Браславе – гэта паліты народнаю крывёю гістарычны помнік, які, магчыма, захоўвае таксама яшчэ не цалком адкапаныя навуковыя каштоўнасьці, а таму патрабуе яна дзяржаўнае аховы ад выпадковых пабудоваў. Чакаюць яшчэ на дасьледнікаў руіны мураваных будынкаў на астравох вазёраў, якія народ у сваіх нязьлічоных паданьнях найчасьцей лучыць з каралевай Бонай. Заслугоўваюць на вывучэньне архітэктурныя помнікі Браслаўшчыны, бо тымчасам яны бадай амінутыя мастацтвазнаўцамі. А калі толькі ня зьнішчаны абэліск на магіле доктара Нарбута, або калі пагашаны на ім ліхтар, дык трэба зноў запаліць яго, бо ягонае сьвятло сымбалізуе сабой вялікую любоў да роднае зямлі й ейных добрых людзей.

■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■

*Наступны нумар «Павета» выйдзе ў канцы лета. Рэдакцыя ідзе ў адпачынак і жадае ўсім добра правесці час*

*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

# РУНІЧНЫЯ НАДПІСЫ З МАСКАВІЧАЎ

Шмат хто ведае аб тым, што на гарадзішчы Маскавічы знойдзены абломкі костак з надрапанымі рунічнымі надпісамі. Іх расшыфроўкай займалася Е.Мельнікава з Масквы. Нарэшце мы маем магчымасць даведацца, што пісалі варагі, якія жылі на Браслаўшчыне. Расшыфроўка маскавіцкіх рунаў падаецца ў кнізе Е.А.Мельнікавай "Скандинавские рунические надписи" (М. 2001). Копіі адпаведных старонак кнігі ласкава даслала ў музей археолаг Людміла Дучыц.

Ва ўступе да расшыфроўкі маскавіцкіх матэрыялаў Мельнікава адзначае, што ўсяго на гарадзішчы знойдзена звыш 120 костак з надпісамі, знакамі і г.д. Рунічныя літары прадстаўлены ў асноўным прасцейшымі па графіцы знакамі, амаль адсутнічаюць знакі складанага малюнка. Даволі шмат знакаў, якія не з'яўляюцца рунамі, а толькі падобныя на іх. Ёсць некалькі надпісаў, выкананых рунамі, але пры расшыфроўцы аказалася, што яны лацінскія (гэта характэрна для Скандынавіі XII – XIV стст.). Шмат у якіх выпадках надпісы спалучаюцца з малюнкамі. Малюнкі, дарэчы, неаднойчы публікаваліся ў розных выданнях.

Ніжэй падаем прыклады расшыфроўкі некаторых маскавіцкіх рунічных надпісаў, прапанаваныя Е.Мельнікавай.



1. Надпіс чытаецца як Jökell – Ёкель – гэта мужчынскае імя.



2. Надпіс мае магічнае значэнне. Тут запісана заклінанне ці праклён. Сустракаюцца руны: "бык", "нарыў" ці "язва", "лішэнні", "лёд". Цалкам надпіс не расшыфроўваецца.



3. Надпіс утрымлівае распаўсюджанае ў Скандынавіі імя Oddi – Одзі.



4. Костка з сеткай і надпісам Oddi – Одзі. Сетка нагадвае дошкі для гульні ў шашкі ці шахматы. Падобныя сеткі вядомы на землях, дзе прысутнічалі вікінгі. Яны не маглі быць паўнацэннымі дошкамі для гульні, а хутчэй за ўсё выкарыстоўваліся для аднаразовай імітацыі гульні.



5. Надпіс чытаецца як teitu – "Весяліся".



6. Надпіс чытаецца як rettu – "Вырашай".



7. Надпіс чытаецца як takia – "даход", "паступленне ў казну". Адлюстраванне трызубца можа быць ужыта як сімвал княжацкай улады.





8. Рунападобныя знакі, якія не расшыфроўваюцца. Надзвычай цікавы малюнак: карабель з мачтай, крыж з ячэйкамі і чатыры чалавечыя фігуркі. Гэта сцэна надзвычай блізка да рэльефа на саркафагу упсальскага біскупа Генрыха (захоўваецца ў Хельсінкі). Рэльеф прысвечаны прыбыццю місіянераў у Фінляндыю, якіх сустракаюць мясцовыя жыхары. Чалавек, які выразаў сцэну на маскавіцкай костцы, быў знаёмы з гэтай падзеяй.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»